Зберагчы і навялічыць

# Дзедзіч



ВЕРАСЕНЬ 2015 • №6 (93)
ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## НОБЕЛЕЎСКАЯ ПРЭМІЯ СВЯТЛАНЫ АЛЕКСІЕВІЧ

стар.2



## Тэндэнцыі беларускай татуіроўкі

з Алесем Таболічам • стр.9

# Святлана Алексіевіч
## атрымала Нобелеўскую прэмію

**«За свае поліфанічныя творы, помнік пакутам і мужнасці нашага часу», — гаворыцца ў фармулёўцы Нобелеўскага камітэта.**

8 кастрычніка ў Стакгольме было абвешчана імя новага лаўрэата Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры. Гэта беларуска Святлана Алексіевіч. Выхадцы з Беларусі атрымлівалі Нобель раней, але беларуска, грамадзянка Беларусі – упершыню. Таму 8 кастрычніка – гістарычны дзень для Беларусі.

Сем цікавых фактаў з біяграфіі пісьменніцы:

### 1. Выратавалі жыццё ўкраінскія манахіні

Святлана Алексіевіч нарадзілася ў 1948 годзе ва ўкраінскім Івана-Франкоўску.

Яе бацька – беларус, вайсковец-лётчык, маці – украінка.

«Мая ўкраінская бабуля заўсёды мне казала, што я мушу любіць Украіну. Усё дзяцінства яна мне расказвала пра Галадамор, які гэта быў кашмар».

Алексіевіч расказвала, што гісторыя яе жыцця пачыналася з таго, як дактары сказалі, што яна не выжыве. «У мяне быў рахіт. Маці нічога не магла купіць на базары. Сябры бацькі перакінулі яго нейкім чынам праз сцены манастыра, і ён прыйшоў да настаяцельніцы. Ён папрасіў, каб выратавалі дзіця. Настаяцельніца доўга думала, пасля сказала, каб жонка прыходзіла штодня, мы будзем выдаваць паўлітра казінага малака».

### 2. Дзевяць троек у атэстаце

У 1961 годзе сям'я Алексіевічаў пераязджае ў Петрыкаўскі раён Беларусі.

Бацька – Аляксандр Яўхімавіч – становіцца дырэктарам Капаткевіцкай сярэдняй школы. Гэта самая глуш Палесся. Маці таксама працавала настаўніцай. Цікава, што ў гэтай самай школе вучылася Ніна Мазай – будучая віцэ-прэм'ерка БССР.

Выдатніцай Алексіевіч не была. У адным з інтэрв'ю яна прызнавалася, што скончыла школу аж з дзевяццю «тройкамі». Выдатна было толькі па літаратуры і гісторыі. Алексіевіч кажа, што асаблівай сімпатыі да школы яна ніколі не мела, а хацела хутчэй вырвацца ў вялікі свет.

### 3. Папрацавала ў раёнках і настаўніцай

Пасля школы Алексіевіч працавала карэспандэнтам нараўлянскай раёнкі «Прыпяцкая праўда». Працавала настаўніцай нямецкай мовы ў Мазырскім раёне. У 1967 годзе паступіла на журфак БДУ. Пасля яго сканчэння была размеркаваная ў бярозаўскую раёнку «Маяк камунізму». Ад 1976 года працавала ў мінскіх газетах і літаратурных часопісах.

Моцны ўплыў на творчасць Алексіевіч аказаў Алесь Адамовіч і кнігі «Я з вогненнай вёскі», «Блакадная кніга», што з'явіліся з ягоным удзелам. Менавіта Адамовіч запачаткаваў у Беларусі жанр, дзе змешваліся літаратура і журналістыка. Алексіевіч называла Адамовіча сваім настаўнікам і пайшла яго дарогай.

«З тысячы галасоў, кавалачкаў нашага быту і быцця, словаў і таго, што паміж словамі я складваю не рэальнасць (рэальнасць недасягальная), а вобраз… Вобраз свайго часу. Тое, як мы яго бачым, як мы сабе ўяўляем. Я складваю вобраз сваёй краіны ад людзей, якія жывуць у мой час. Я хацела б, каб мае кнігі сталі летапісам, энцыклапедыяй амаль дзясятка пакаленняў, якія я заспела і разам з якімі іду», – так Алексіевіч ахарактарызавала сваю творчасць.



Два гады выдавецтвы мурыжылі яе кнігу «У вайны не жаночае аблічча».

Набор яе першай кнігі «Я з'ехаў з вёскі» рассыпалі ў тыпаграфіі.

Толькі з крызісам Савецкага Саюза яе кнігі змаглі паўнаварта дайсці да чытача.

### 4. Хавала Арлова

Намеснік дырэктара Ліцэя імя Якуба Коласа Лявон Баршчэўскі кажа, што Алексіевіч была адной з першых, хто стаў на абарону ліквідаванай навучальнай установы. «Калі нас выгналі ў падполле, то Алексіевіч дапамагала грашыма на арэнду памяшканняў, ахвяравала частку ўласнай бібліятэкі, удзельнічала ў сустрэчах».

Алексіевіч ніколі не была звязаная з палітычнай апазіцыяй, але ўвесь час дапамагала грамадзянскай супольнасці.

Таксама Баршчэўскі кажа, што за доўгі час знаёмства ніколі не чуў ад Алексіевіч нічога абразлівага ў бок беларускай мовы. «Усё гэта лухта, што яна супраць усяго беларускага».

Літаратар Уладзімір Арлоў расказаў незвычайную гісторыю, як яму ў жыцці дапамагла Святлана Алексіевіч. «Пасля майго выступу на Дзядах 1988 года, да мяне пачаў заходзіць міліцыянт Сальнік. Ён склаў два запар пратаколы за пражыванне ў Мінску без прапіскі. Мне гразіла дэпартацыя па месцы прапіскі ў Полацк. У гэтай сітуацыі на дапамогу мне прыйшла Святлана Алексіевіч».

Жыллёвыя ўмовы пісьменніцы дазвалялі прапісаць у сябе Арлова. Алексіевіч падала дакументы ў камунальныя службы. Дзякуючы гэтаму Уладзімір Арлоў захаваў працу ў «Мастацкай літаратуры», а таксама застаўся ў Мінску.

### 5. Цэніць Станкевіча і Федарэнку

Святлана Алексіевіч шмат чытае беларускай літаратуры. Мала што праходзіць міма яе.

«Я люблю тое, што мяне адкрывае, я люблю сапраўдныя рэчы… Напрыклад, «Любіць ноч – права пацукоў» Юрыя Станкевіча. Я помню, што калі гэта прачытала, я ахнула. Я ўбачыла добра зробленую рэч», – казала Алексіевіч.

Алексіевіч таксама адзначала Андрэя Федарэнку за ягонае апісанне вёскі.

Сёлета, калі «Наша Ніва» надрукавала дзённік Андруся Горвата – мінчука, які пераехаў у вёску, гэта так уразіла Святлану Алексіевіч, што яна даслала ў палескую вёску бандэроль з кніжкамі.

### 6. Не атрымала ніводнай прэміі ў Беларусі

Пісьменніца абласканая міжнароднымі літаратурнымі прэміямі. Напрыклад, толькі за апошнія гады яна атрымала прыз чытацкіх сімпатый на самай прэстыжнай прэміі Расіі «Вялікая кніга», прэмію імя Рышарда Капусцінскага ў Варшаве, званне афіцэра ганаровага ордэна мастацтваў і літаратуры Французскай Рэспублікі, французскую прэмію Медычы, прэмію саюза нямецкіх кнігагандляроў. Ад канца 90-ых яе рэгулярна ўзнагароджваюць на Захадзе, а вось ніводнай прэміі ў Беларусі яна так і не атрымала.

Дарэчы, у расійскіх СМІ з года ў год качуе адна і тая ж памылка, што Алексіевіч жыве ў Еўропе. Не, яна вярнулася ў Беларусь і апошнія гады жыве ўзімку ў Мінску, а цёплай парой – на лецішчы каля вытоку Іслачы. Праўда, пры гэтым шмат падарожнічае, сустракаецца з чытачамі ва ўсім свеце.

### 7. Устала на абарону Украіны і еўрапейскіх каштоўнасцей

Ад пачатку вайны на Данбасе Святлана Алексіевіч адразу заняла ясную пазіцыю. Яна не саромеецца называць калектыўным вар'яцтвам тое, што сёння робіцца ў Расіі. Яна заклікае расійскіх інтэлектуалаў не маўчаць у гэтай сітуацыі, не баяцца выказваць сваё меркаванне.

«Пуцін – не палітык. Пуцін – кадэбэшнік. І тое, што ён робіць, гэта правакацыйныя рэчы, якімі звычайна займаецца КДБ», – гэта таксама словы Алексіевіч.

У нядаўнім інтэрв'ю «Нашай Ніве» Святлана Алексіевіч сказала: «Мы маем справу з рускім нацыяналізмам, які вельмі небяспечны. Мне вельмі шкада, што ён паражае і таленавітых людзей, як той жа Прылепін. Дай бог, каб мы ацалелі ў гэтым рускім нацыяналізме». «Беларусь можа выратавацца толькі, калі павернецца ў бок Еўропы», – дадала яна.

Апошнім часам у расійскіх СМІ прайшлі хвалі цкавання Святланы Алексіевіч.

**nn.by**

# Кадэты з Брэсцкай кадэцкай вучэльні

## выклалі фота з «Пагоняй» у сацсеткі

**У сярэдзіне кастрычніка чацвёра навучэнцаў Брэсцкай абласной кадэцкай вучэльні ў Ястрамбелі (Баранавіцкі раён) выклалі ў інтэрнэт свае фота ў майках з «Пагоняй» пад уніформай.**



Што такое кадэцкая вучэльня? Гэта напаўзакрытая школа, дзе дзеці жывуць і вучацца амаль па вайсковым статуце з 8 па 11 класы.

Карыстацца мабільным там можна толькі пару гадзін у спецыяльна адведзеныя дні, з камп'ютарам – тое самае.

Выпускнікі «кадэткі» маюць права паступаць у вайсковыя ВНУ без здачы ЦТ, калі адзнакі ў вучня вышэйшыя за 7 балаў па ўсіх прадметах.

У кадэцкіх вучэльнях таксама вучацца і дзяўчаты. Гэта дае ім перавагу пры паступленні ў Акадэмію МУС.

З бацькамі навучэнцы бачацца рэдка, раз на тыдзень. За добрыя паводзіны ці пэўныя поспехі можна атрымаць дазвол з'ездзіць дадому на выходных.

Гэтым і тлумачыцца тое, што ўся інфармацыя з Ястрамбеля была ўрыўкавая, часам супярэчлівая.

У гэтую «школу» нельга проста так зайсці і пагутарыць з настаўнікамі. На ўваходзе стаіць КПП, а ў будынках арганізаваныя пасты з навучэнцаў, якія дакладваюць сваім куратарам пра тых, хто ўваходзіць.

Самі ж дзеці вельмі запалоханыя: калі я быў у Ястрамбелі, то кадэты выказваліся ў духу «мы не разумеем, пра што вы, а калі і разумеем, то гаварыць не будзем».

Дырэктар таксама ад журналістаў хаваўся. З дома замест яго выйшла ягоная жонка з сабачкам на руках і папрасіла не турбаваць.

Больш разняволена навучэнцы кантактавалі ў сацыяльных сетках. У тым жа «Кантакце» амаль усе кадэты падпісаныя несапраўднымі імёнамі (героі фота з «Пагоняй» таксама»), таму і адказнасць за свае словы там адчуваецца менш.

Аднакласнікі хлопцаў з фота з «Пагоняй» распавялі, што ў той жа дзень, як здымак з'явілася ў «Нашай Ніве», пра гэта стала вядома адміністрацыі.

Дырэктар вучэльні Аляксандр Калько, маўляў, быў проста раз'юшаны – прайшло ўсяго толькі пару дзён ад выбараў, а ягоныя навучэнцы выкладаюць у інтэрнэт фота з «Пагоняй». Магчыма, ён баяўся, што ў нелаяльнасці абвінавацяць яго самога. Вось і паднялі бучу. У школу нават выклікалі міліцыю. Аднак тыя адмовіліся займацца справай, не вартай выедзенага яйка – парушэнне формы адзення.

Пасля хуткага разбору дырэктар дабіўся прызнання, хто выклаў фота ў інтэрнэт – гэта хлопец Мікіта Гвоздзеў, які на




***Людзі выкладаюць свае фота з тэгам #Пагоня побач у падтрымку кадэтаў***

фатаздымку другі справа. Увечары ў пятніцу «Гвозд» – такая ў яго мянушка між кадэтаў – зайшоў да сваіх аднакласнікаў развітацца. Яму паведамілі пра адлічэнне.

Лёс астатніх таксама быў няпэўны – дырэктар вучэльні наказаў бацькам хлопцаў «рыхтавацца» да адлічэння.

Але інфармацыя пра рэпрэсіі супраць кадэтаў пайшла ў СМІ. У краіне пачала разгортвацца акцыя падтрымкі малых патрыётаў Беларусі з тэгам #Пагоняпобач. Свае фоты разам з нацыянальным беларускім гербам выклалі тысячы людзей, у падтрымку хлопцаў выказалася Нобелеўская лаўрэатка Святлана Алексіевіч, назваўшы тых «сапраўднымі афіцэрамі» у будучыні. У Ястрамбель з'ехаліся карэспандэнты.

Пакаранне школьнікаў-кадэтаў за беларускі патрыятызм нагадала грамадству змрочныя гады іншаземных акупацый.



Аднакласнікі Мікіты кажуць, што дырэктар вучэльні забраў назад свае словы пра адлічэнне трох хлопцаў. Кадэты таксама расказваюць, што дырэктар выбачыўся перад Мікітам Гвоздзевым і ягонымі бацькамі за рэзкую рэакцыю і прасіў хлопца вярнуцца ў Ястрамбель. Але пакуль Мікіта не вярнуўся – хлопцы мяркуюць, што ён яшчэ сам узважвае, ці варта.

Завуч школы таксама пацвярджае, што «ўсе хлопцы вучацца», «толькі Мікіту бацькі забралі па заяве на выходныя. Учора патэлефанавала мама і папярэдзіла, што ён на даведцы, таму што кепска сябе адчувае».

Як расказалі «Нашай Ніве» аднакласнікі, Гвоздзеў паходзіць са Стаўбцоўскага раёна, з сям'і вайскоўца.

Прайшла інфармацыя, што пакараннем для нон-канфармістаў стане пазбаўленне звальнення за парушэнне ўстаноўленай формы адзення.



«Пагоня» – гэта вядомы з канца XIII стагоддзя старажытны герб Беларусі. Чаму «Пагоня»? Так называўся высакародны звычай, пашыраны ў нашых землях. У выпадку раптоўнага налёту ворагаў – вось наляцелі чужынцы, схапілі каштоўныя рэчы і дзяцей у палон – усе мужчыны, якія маглі трымаць зброю, сядалі на коней і пераследавалі захопнікаў, каб вызваліць забраных суайчыннікаў.

Выявай «Пагоні» ўпрыгожаныя ўсе дзяржаўныя дакументы тагачаснай Беларусі, старонкі «Метрыкі» і «Статутаў». У 1918-м «Пагоня» стала дзяржаўным гербам Беларускай Народнай Рэспублікі – першай незалежнай беларускай дзяржавы. У 1991–1995 яна была першым дзяржаўным гербам РБ. Сёння яна застаецца папулярным патрыятычным сімвалам, які адсылае да старажытнай гісторыі беларускага народа, і ўнесеная ў дзяржаўны Спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей.

**Арцём Гарбацэвіч**

# Што чакае беларускую мову?

**Акінуўшы вокам сённяшняе становішча беларускай мовы, задумваюся, а якую ж мову мы атрымаем, калі ўрэшце адваюем яе. Не скажу, што я сам мастак слова. Ёсць чаму павучыцца. Гамонка пра агульныя тэндэнцыі. Каб не сталася так, што тое, што мы займеем, будзе зусім далёкае ад натуральнай беларускай мовы. Адпаведна, каштоўнасць каторай будзе ніякай.**




**1. Фанетыка.**

Адметнасць у гэтай сферы тая, што за МКАДам можна, а нат і ў Менску, пачуць чысцюткую беларускую гаворку. Але нюанс такі, што зазвычай гэткія людзі не лічаць сябе носьбітамі беларускай мовы. Здараецца яшчэ, што яны балансуюць на мяжы з трасянкай або ёй карыстаюцца (але сама фанетыка ў іх беларуская). І наадварот сярод беларускамоўных почасту чуваць расейскае вымаўленне. І гэта не дыялектныя асаблівасці (бо тое ж мяккае «Р», напрыклад, пануе на паўночным ўсходзе Беларусі), а прыпадабненне да расейшчыны, як вынік комплексу непаўнавартасці. А ў тым ліку і проста няведанне, узрослых на расейшчыне, узорнага вымаўлення сапраўдных беларускіх гукаў.

Так, можна пачуць: снег замест сьнег, вакзал замест вагзал, гарадскі замест гарадзкі, на рэчкі/рэчцы замест на рэццы і г.д.

Сучасныя дзеці ж наогул не здольны належным чынам вымавіць беларускія гукі.

**2. Лексіка.**

Сітуацыя з лексікай, падаецца, бадай самая station — 

Сітуацыя з лексікай, падаецца, бадай самая станоўчай. Яна хаця б фіксуецца ў слоўніках зрэдчас. Але тут пра іншыя падводныя камяні. І слоўнікаў нібы хапае, а як прыгледзішся, то ўсё дагары нагамі.

Існуе (існавала за часы БССР) акадэмічная плынь, якая лёгка не заўважае наватворы і ігнаруе лексіку, па іх вызначэнні, састарэлую, дыялектную ці размоўную (куды ўпісваю часта непажаданыя лексічныя элементы па нейкіх палітычных матывах).

А слоўнікі не пад грыфам акадэміі грашаць у сваю чаргу ўпіхваннем і жука і жабы. Акром не пажаданыя для ўжытку ў афіцыёзе.

Для прыкладу, узяць «асадку». Слова ў беларускамоўным асяроддзі ўсім вядомае, але ў афіцыйных слоўніках не адлюстраванае. І такіх словаў сотні.

Сюды ж і цуранне беларускіх словаў падобных вонкава на расейскія, імкненне іх замяніць на як мага адрозны. Празмернае ўжыванне запазычанняў як з расейскай, так і з іншых моваў. Але нават наяўнасць процьмы слоўнікаў не ратуе носьбітаў ад памылковага маўлення. Блытаюцца ў словах тоўсты і тлусты, масла і алей, абагульніць і абагуліць, выхад і выйсце, высновы і вынікі, сабе і сябе, для і дзеля і г.д. Прычына простая: у слоўнікі ніхто не зазірае.

А ўжо калькаванне – гэта сапраўдны біч мовы. Не маючы адпаведнікаў у беларускай і жадаючы перакладаць слова ў слова з'яўляюцца такія пачвары як: прышпільны («прикольный»), стромкі (слэнг «крутой») і процьма іншых.

**3. Устойлівыя выслоўі.**

Сюды можна аднесці фразеалогію, прыказкі, прымаўкі, ідыёмы, тосты і інш. Гэта ўвогуле набалелая тэма.

Вера ў блізкасць беларускай і расейскай моваў вядзе да таго, што нібы толькі памяняць словы і на выхадзе атрымаем беларушчыну. Такая вось атрымоўваецца беларуская мова, часта нічога з ёй супольнага не маючая. Акрамя таго, знаходзячыся ў расейскім інфармацыйным асяроддзі, мы змушаны спажываць і расейскую фразеалогію, якая часта ўройваецца ў мазгі несвядома. Свая ж на жаль не вядомая. А гэта ж самы цымус мовы! Трапнае выслоўе ці прыказка аздабляе мову як ні што іншае. Часта беларускамоўныя грэбуюць гэтым багаццем, думаюць, што адно замяніўшы расейскія словы на беларускія можна паставіць усе кропкі над і. А тым самым збядняюць сваю мову і маюць з таго цяжкасці ў стасунках, у выразе ўласных думак.

Праўда, у народзе гуляе свая фразеалогія, прыказкі, ідыёмы. Часта цалкам і беларускія ў вуснах расейскамоўных. Але ж каму вядома, без авалодання спецыялізаванай літаратуры, што сапраўднае беларускае, а што чужое. Усё змяшалася да кучы. Зрэшты, таму спрыяла і праца расейскіх навукоўцаў XIX стагоддзя, якія ўважалі беларускую мову за дыялект велікарускай. Таму нашу лексіку і выслоўі (як, зрэшты і ўкраінскія) дапасоўвалі да сваёй, абагачалі яе. І беларусам потым жа закідалі, што нічога ў вас нямашкі! Дарэчы, не адной мовай гэта абмежавалася.

**4. Правапіс.**

Тут як выкруціць. З аднаго боку, шматварыянтнасць можна падаваць як жыццяздольную і карысную рысу. А з іншага, у сітуацыі занядбання разналадзіца вядзе да далейшай страты мовы. Няма нормы, няма стандарту, няма ідэалу. Ці можна ў такім разе паразумецца? Як хачу, так і пішу/гавару. Нормы, пэўныя межы, класіфікацыя – гэта і ёсць праявы культуры. У прыватным маўленні, вядома, можна іх не трымацца і пачувацца больш вольным.

ПРАЦЯГ на старонцы 8 ▶



# Што чакае беларускую мову?

**▸ ПРАЦЯГ. Пачатак на старонцы 6**
















Але ж у афіцыйных установах унармаванне – неабходны элемент. Як вынік разнастайнасці правапісаў: не веданне ніводнага з іх. Рыхтык як сёння з мовамі (абывацель трымаецца адной мовы). Нагрувашчванне моўных варыяцый вядзе, здаецца, толькі да адпрэчвання такіх моўных сродкаў.

**5. Структура мовы.**

Няведанне структуры мовы, яе будовы вядзе да разбурэння апошняй. Структура – гэта прынцыпы пабудовы слова, сказу. Але сёння спрадвечна беларускі прынцып саступае замежным канструкцыям. Да прыкладу, аддзеяслоўныя назоўнікі. У расейскай яны ўтвараюцца з канчаткам -ка, у беларускай жа выкарыстоўваецца канчатак -анне, -энне або скарочанае слова.

Течь – утечка, снимать – съемка, прививать – прививка. Гэна цягнуць і ў беларускую: уцечка, здымка, прышчэпка. Хаця на іх месцы павінны быць: выцек, здыманне, прышчэп. Яшчэ адной з'явай, не ўласцівай беларускай мове, можна назваць ужыванне складаных словаў (што характэрна для царкоўнаславяскай і пабудаванай на ейным грунце расейскай).

Добразычлівы, добрасумленны, лесанасаджэнне – такія вось наватворы неўпрыкмет руйнуюць мову знутры. Што не дарабіў расейскі штых і школа, даробяць самі носьбіты мовы.

Сюды ж можна дадаць і ўжыванне неўласцівых беларускай мове суфіксаў, пазычаных з расейскай: -ір,-ома,-ема,-цель,-уч,-юч і інш.

Памылковае выкарыстанне прыназоўнікаў: пайсці за хлебам замест пайсці па хлеб і г.д. Або блізкія да фразем памылкі: «ажаніцца на» замест «ажаніцца з».

Спіс можна доўжыць, але ж тут няма задачы праводзіць лекцыю па беларускай мове. Дзеля гэтага ёсць адпаведныя падручнікі і кнігі, да якіх прапаную і звяртацца.

Высновы хутчэй сумныя. Мова ў вуснах і пісьме носьбітаў дэфармуецца і гібее. Паленцаў у агонь падкідае і ўнармаванне неўласцівых беларускай мове рысаў. У сукупнасці з тым, што яна знаходзіцца на перыферыі дзяржаўных інтарэсаў, то калі беларускамоўныя самі не будуць прыкладаць хоць якіх намаганняў да ўдасканалення сваіх ведаў, то ад беларускай мовы застанецца толькі пудзіла, якое застанецца што выкінуць на сметнік. Усе ж мы хочам мець аўтэнтычныя замкі, а не з гіпсакардону ды шклопакетаў. То чаму гэта не датычыць мовы? Чаму яе можна ляпіць абы з рук? Ці зможа прывабіць каго гэткая падробка? А гэта ж кожнаму пад сілу. Таму заклікаю ўсіх паглыбляць свае веды ў мове.

**Зміцер Крымоўскі**

# Размова пра тату з Алесем Таболічам

**26 верасня ў Берасце завітаў лідар гурта ZNICH, майстар па перманентным макіяжы і тату Алесь Таболіч. Ён распавёў, што зараз набіваюць беларусы і чаму гэта стала так модна.**



У дажджлівую суботу адбылася чарговая сустрэча з цыкла “Ёсць размова”. На гэты раз тэма тычылася беларускай татуіроўкі, а дакладней называлася “Тэндэнцыі беларускай татуіроўкі ў сучасным мастацтве”.

Алесь Таболіч прывёз шмат эскізаў з беларускімі матывамі. Слухачы пазнаёміліся са знакавымі тату машынкамі і маглі іх нават памацаць.

Ніжэй прыводзім цікавыя факты пра гісторыю і тэндэнцыі беларускай татуіроўкі ў сучасным мастацтве:

• каля Ноўгарада была знойдзена мумія князя на скуры якой захаваліся малюнкі з паўночнымі матывамі, гэта адзін з першых пацверджанняў з’яўляння тату на славянскіх землях.

• татуіроўкі з гербам “Пагоня” сталі вельмі распаўсюджаныя з пачатку 2000-х гг.

• зараз сталі вельмі папулярныя асобныя элементы арнамента ўзятыя з сайта ornaments.shuma.by

• шмат выкарыстоўваецца эклектычных сюжэтаў у якіх спалучаецца партрэт, арнамент і іншыя элементы.

З найноўшых тэндэнцыяў папулярнымі становяцца малюнкі ў стылі супрематызм.

Гэта толькі асноўныя цікавосткі з лекцыі Алеся Таболіча. За навінамі сачыце ў суполцы Belarus tattoo fest 2016.

**dzedzich.org**

# Закінутая Беларусь

## Берасцейшчына

**Куды рвануць, калі захацелася палазіць па аварыйных будынках ці проста рэлакснуць у цішы? Некалькі цікавых і амаль магічных месцаў Берасцейшчыны.**

### • Палац Радзівілаў
### в. Паланечка, Баранавіцкі раён

Палац, які належаў прадстаўнікам самага багатага роду ВКЛ, у XVII стагоддзі нагадваў асобны мікракосм: парадны двор з маёнткам, французскі і англійскі паркі, капліца, аранжарэя, водная сістэма з шасці сажалак, доўгая пад'язная алея, гаспадарчы двор і нават млын. Сам двухпавярховы палац выглядаў даволі проста і функцыянальна звонку, але ўнутры наведнікі звычайна хадзілі з разяўленым ротам. Асабліва крута выглядалі люстэркавыя сцены вялікай залы, шыкоўная шафы з каштоўных гатункаў дрэва ў бібліятэчнай зале, калекцыя глобусаў і гравюр, а таксама аркі з карэльскай бярозы ў спальні князя Канстанціна, аднаго з уладароў лакацыі.

Зараз ад гэтай прыгажосці засталіся толькі ўспаміны гісторыкаў: апошнія дзесяцігоддзі палац займала школа-інтэрнат, а таму ўсё, што можна было пахерыць, знішчана, разрабавана і перафарбавана. Пару гадоў таму палац выкупіла прыватная кантора, каб аднавіць небараку, але праца пакуль не пачалася. Прыязджай у Паланечку, каб не толькі прайсціся па маёнтку і ўзгадаць часы былой славы, але і атрымаць асалоду ад прыроды – усё ж шляхцічы ўмелі добра падбіраць месцы для хат.

### • Капліца-склеп Ажэшак
### в. Заказель, Драгічынскі раён

Адна з самых старых неагатычных і дакладна самая чароўная пабудова краіны знаходзіцца ў вёсцы Заказелле, якая належала роду Ажэшак – менавіта з яго паходзіла хрэстаматыйная пісьменніца Эліза Ажэшка. Капліцу-склеп пабудавалі ў 1849 годзе. Зараз вакол яе разбіты дагледжаны парк, ёсць нават каваныя ліхтары.




Знайдзі гербы роду Ажэшак на фасадзе, а таксама зазірні ўнутр (хаця б праз рашотку): столю ўпрыгожвае ажурная ляпніна, якая выглядае як багатыя карункі, а вокны забраныя вытанчанай коўкай. Можна спусціцца ў склеп пад капліцай і адчуць сябе кіраўніком паўстання 1863 года – гісторыкі лічаць, што менавіта тут хаваўся адзін з галоўных паплечнікаў Каліноўскага Рамуальд Траўгут.

### • Сядзіба Бохвіцаў
### в. Паўлінава, Баранавіцкі раён

Ладную неагатычную сядзібу заклалі ў 1906 годзе – некалькі пакаленняў Бохвіцаў ганарыліся сваім радавым гняздом, якое стаяла ў цэнтры глухога лесу, на беразе штучнага возера. За савецкім часам тут быў ваенны шпіталь, што пакінула сур'ёзны адбітак на інтэр'еры. Але і зараз прыемна прайсціся па залітых сонцам залах, палюбавацца фігурыстымі гатычнымі вокнамі і завостранымі дзвярамі. Глядзі пад ногі – пару дзесяцігоддзяў сюды збягалі школьнікі з піянерлагера «Чабарок», які месціцца побач, а таму можна лёгка спатыкнуцца аб сляды іх жыццядзейнасці.

### • Сядзіба Рэйтанаў
### в. Грушаўка, Ляхавіцкі раён

Драўляная сядзіба належала прадстаўнікам старажытнага польскага роду Рэйтанаў, і першы шляхетны дом тут быў закладзены ў камені яшчэ ў XVI стагоддзі. У канцы XIX стагоддзя ў Грушаўцы гаспадарыў пан Юзаф. Праз хліпкае здароўе лекары забаранілі яму жыць у каменным доме, а таму на былым мураваным фундаменце ўзвялі сучасную версію панскага маёнтка – са звышякаснага брусу. Печкі з галандскай кафлі, роспісы, разьба – адгалоскі былой раскошы захаваліся і зараз.

Наведайся ў закінутую сядзібу, каб памедытаваць, гледзячы, як пыл кружляе ў промнях, што прасочваюцца ў дзіркі, адшукай неагатычную каплічку ў двары сядзібы, а таксама пасябруй з козамі, якіх выгульваюць у былым парку мясцовыя бабулі.

**34mag.net**



# 10 современных книг,
## с которыми забудешь про сон




**• Джордж Мартин – «Песнь льда и пламени»**

Этот роман не требует отдельного представления. Все мы смотрели одноименный сериал или хотя бы слышали о нем. События в книге происходят на континенте Вестерос, где идет борьба за престол. Королевские интриги, заговоры и война преследуют читателя на протяжении всего романа.

**• Гиллиан Флинн – «Исчезнувшая»**

Супружеская пара решила отметить годовщину свадьбы, но вдруг куда-то пропал один из виновников торжества. Остались следы борьбы в доме и кровь. Все улики указывают на мужа, но действительно ли он виновен в исчезновении жены? Книга, после прочтения которой начинаешь задумываться: а хорошо ли ты знаешь свою половину?

**• Мариам Петросян – «Дом, в котором...»**

Удивительный роман повествует об интернате для детей-инвалидов, обитатели которого обладают паранормальными способностями и подчиняются самому Дому. История будоражит и не отпускает до конца книги. Этот роман хочется перечитывать заново.

**• Кадзуо Исигуро – «Не отпускай меня»**

Антиутопическая книга с пробирающим до дрожи реалистичным сюжетом. В альтернативной Британии конца XX века существует частная закрытая школа. Дети там учатся и играют в школьных спектаклях. Но со временем ученики узнают, что их судьба – это донорство и что они были созданы для того, чтобы спасти безнадежно больных.

**• Маркус Зузак – «Книжный вор»**

Январь 1939 года, Германия. Трагические события в стране заставляют девятилетнюю Лизель Мемингер и ее семью покинуть родной дом. В дороге ее младшего брата навещает непрошеный гость – смерть, которая впервые замечает и Лизель. Удивительная история о маленькой девочке, которой за свой юный возраст пришлось многое пережить.

**• Иэн Макьюэн – «Искупление»**

Лиричный, пронзительный роман о любви и предательстве, о творчестве и об ошибках, за которые приходится расплачиваться всю жизнь. Девочка-подросток пишет «хронику утраченного времени», по-детски переосмысливая события взрослой жизни. Книга была экранизирована. Фильм был представлен на Венецианском кинофестивале, завоевал 2 премии «Золотой глобус».

**• Карлос Руис Сафон – «Тень ветра»**

Действие романа начинается в 1945 году в Барселоне, где герой, будучи десятилетним мальчиком, знакомится с некой таинственной книгой, которая меняет его жизнь. На протяжении 20 лет он пытается разгадать тайны, связанные с этой книгой, встречая на своем пути странных незнакомцев.

**• Дэвид Митчелл – «Облачный атлас»**

Яркий и захватывающий роман, сюжет которого разворачивается с середины XIX века до далекого постапокалиптического будущего. 6 историй, в которых есть место предательствам и убийствам, любви и преданности. Эту книгу каждый поймет по-своему – она словно мозаика, из которой разные люди складывают абсолютно разные картинки.

**• Нил Гейман – «Американские боги»**

Одно из самых известных произведений автора. Это роман о богах, привезенных в Америку людьми из разных уголков мира, почитаемых, а потом забытых, и о том, к чему не может остаться равнодушным ни один мужчина: о поисках отца, родины, возлюбленной, о символической и реальной смерти.

**• Халед Хоссейни – «Бегущий за ветром»**

Проникновенный роман о дружбе и верности двух мальчиков – Амира и Хасана. Один принадлежит к местной аристократии, другой – к презираемому меньшинству. Их история разворачивается на фоне кабульской идиллии, которая вскоре сменяется грозными бурями. У каждого своя судьба, но они, как в детстве, связаны прочнейшими узами.

**AdMe.ru**



# Магільнік готаў

## раскапалі будаўнікі ў Берасці

**Навукоўцы змаглі даследаваць толькі восем магіл, астатнія былі знішчаны будаўнічай тэхнікай**

Магільныя ямы ў брэсцкім мікрараёне «Кавалёва» выпадкова выявілі будаўнікі – на двух гектарах археолагам удалося даследаваць восем ацалелых пахаванняў. На месцы будучай жылой забудовы навукоўцы выявілі попел і фрагменты керамікі.

«Гэта рэдкасць, калі ў горадзе знаходзяць такія старажытныя помнікі з найменш вывучанага перыяду», – паведаміў карэспандэнту Sputnik дацэнт кафедры славянскіх народаў Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта ім. А.С. Пушкіна Аляксандр Башкоў.

**• Выпадковая знаходка**

У «Кавалёве» рыхтуецца да жылой забудовы новая пляцоўка, могільнікі знайшлі падчас зняцця ўрадлівага пласта глебы. «Выявілі магільныя ямы са слядамі трупаспалення – перапаленымі косткамі, камянямі і вуглём», – распавёў Башкоў.

Пры даследаванні пахаванняў навукоўцы знайшлі фрагменты керамічных гаршкоў і адно цэлае донца. Па словах супрацоўнікаў універсітэта, гліняны посуд асабліва цікавы – ён мог быць як элементам дароў памерлым, так і часткай пахавальнага абраду.

Магільных ям на двух гектарах шмат, аднак цалкам захавалася толькі восем – астатнія былі значна пашкоджаны будаўнічай тэхнікай.

«Віны будаўнікоў у гэтым няма. Хто ведаў, што там будуць гэтыя пахаванні. Зрэшты, прэцэдэнт створаны. У далейшым пры будаўніцтве трэба быць больш уважліва», – пракаментаваў сітуацыю Башкоў.

**• «Ёсць пэўная загадка»**

Пакуль дакладны ўзрост і прыналежнасць знаходак навукоўцы ідэнтыфікаваць не могуць. Мяркуецца, што магілам каля дзвюх тысяч гадоў.

«Мы мяркуем, што магільнік звязаны з германскімі плямёнамі», – сказаў Башкоў, удакладніўшы, што дзве тысячы гадоў таму тут ішлі сур'ёзныя міграцыйныя працэсы – менавіта германцы нароўні з вандаламі, балтамі і славянамі перамяшчаліся ў свой час па тэрыторыі сучаснай Брэсцкай вобласці.

«Ёсць пэўная загадка, мы маем стракаты рэгіён з разнастайнымі знаходкамі», – адзначыў дацэнт.

Знойдзеныя пахаванні, спадзяюцца ў БрДУ, дапоўняць карціну вывучэння складанага перыяду.

**• Дзе готы, там і германцы**

Магільнік у «Кавалёве» не першы, знойдзены ў Брэсце: у 1960-х у Трышынскіх могілках археолагі даследавалі старажытнае паселішча племя готаў. З ім у свежых знаходак шмат агульнага – навукоўцы кажуць аб падобных элементах у пахавальным абрадзе. Аднак Трышын быў больш значным аб'ектам – паселішча даследавалі чатыры гады, а цяпер у археолагаў быў толькі месяц.

«Тут будуюць новы мікраараён, таму трэба было спяшацца. Але мы ў чарговы раз убачылі, што Брэст насычаны старажытнымі помнікамі і наша тэрыторыя ў гэтым сэнсе самая цікавая», – дадаў Башкоў.

**sputnik.by**



# Як і чаму 20-гадовыя актыўна ўдзельнічаюць у палітычным жыцці?

**Пра назіральнікаў з ініцыятывы #87працэнтаў СМІ неаднаразова пісалі падчас гэтай выбарчай кампаніі. Спачатку хлопцы арганізавалі першую ў гісторыі Беларусі відэатрансляцыю з участку для галасавання.**




Потым пры іх актыўным назіранні тут абвясцілі ледзь не сенсацыйныя вынікі. У асноўны дзень галасавання за Аляксандра Лукашэнку тут прагаласавалі толькі 50% выбаршчыкаў. Пра тое, чаму 20-гадовыя актыўна ўдзельнічаюць у палітычным жыцці, «Радыё Свабода» пагаварыла з Пятром Маркелавым.

**«У 12 год мяне першы раз затрымала міліцыя»**

**– Адкуль вы родам? У якім асяродку гадаваліся?**

– Я нарадзіўся ў Менску ў 1994-м, але першыя пяць год пражыў у Маладзечне. Мне пашчасціла – мае бацькі дактары, таму са здароўем ніколі праблемаў асаблівых не меў, а ў паліклініку наведваўся раз на колькі год. Бабулі ў мяне – настаўніцы фізікі і хіміі, таму і з дакладнымі навукамі было добра.

Вучыўся ў беларускамоўнай школе № 60 да пятага класы, потым – у гімназіі № 23. Сярэднюю адукацыю атрымаў у Ліцэі БДУ.

**– З чаго і калі вы зацікавіліся палітыкай?**

– Першае, што памятаю, – як у 2006 (мне тады было 12) разам з аднакласнікамі хадзілі на сядзібу БНФ, якая тады яшчэ мясцілася на праспекце Машэрава, побач з Акадэміяй МУС. Набіралі значкаў «За свабоду», рознага кшталту налепкі («Нам лгут», «Джынсавая рэвалюцыя», «Свабода», з Мілінкевічам). Потым хадзілі, ляпілі па ўсім горадзе.

Памятаю, наляпіў аднойчы налепку наўпрост на слуп ля ўваходу ў Акадэмію. Выбег міліцыянт, зацягнуў мяне ў будынак і кажа: «Паказвай, што ў сумцы». Я прымяніў вядомую фішку – дастаў загадзя пакладзены ў маленькі аддзел невялічкі стос налепак з «Мілікам». «Ды гэтым можна ўвесь Мінск абляпіць!» – дзівяцца міліцыянты. Адпусцілі. А сумка – поўная тых налепак... І водар свежага друку, паперы і клею.

Потым яшчэ ежу перадаваў у намётавае мястэчка. На плошчу на Дзень Волі маці не пусціла.

**«Мяне зарэгістравалі, а Лябедзку – не»**

**– Ці ўдзельнічалі актыўна ў палітычным жыцці да мясцовых выбараў?**

– Ляпіў налепкі і ў 2010. Быў на плошчы. Ну і пра Зяно-






на крычаў направа і налева: «Толькі Зянон!». Вучыў, што адказваць трэба: «Толькі ён». Я, у прынцыпе, і зараз гэтым займаюся.

**– Калі вы далучыліся да нейкага палітычнага руху афіцыйна? Чым займаліся?**

– Далучыўся да Руху «За Свабоду» у 2013, пасля «Школы руху». Акурат тады й пачалася перадвыбарчая кампанія. Дарэчы, на тых выбарах я таксама назіраў і меў пазітыўны досвед. Мне дазволілі падыйсці да стала, дзе лічылі галасы, рабіць фота і здымаць відэа.

**– Чаму вырашылі балатавацца ў дэпутаты ў 2014-м?**

– Ідэя ўзнікла нечакана, падчас шпацыру з даверанай асобай па раёне. Першае – гэта прастора для творчасці. Студэнт-фізік, «валасацік», як мяне некаторыя звалі, які балатуецца ў дэпутаты ў Беларусі – абсурд, але нешта новае. Пасля ўжо, калі думалі над зместам кампаніі, сфармулявалі мэты: мы ператвараем апалітычнасць людзей праз страх у цікавасць да палітыкі праз смех. Таксама прыцягваем увагу да несамастойнасці мясцовых Саветаў.

Ніхто, акрамя мяне з даверанай асобай, не верыў, што я атрымаю рэгістрацыю ў якасці кандыдата. «Яны рэгіструюць толькі тых, каго патрэбна», – казалі мне. У выніку Лябедзьку не зарэгістравалі, бо падаў дакументы з парушэннямі закона, яшчэ некага – бо не сабраў дастатковую колькасць сапраўдных подпісаў.

І такое адбываецца ўвесь час. Людзі адмаўляюцца нешта рабіць, упэўнена аргументуючы: «нас не зарэгіструюць», «нам не дазволяць», «толькі час і нервы змарнуем». Насамрэч трэба казаць «мне лянота».

А мы вырашылі паспрабаваць, і ў нас атрымалася. Не трэба загадзя казаць, што нічога не выйдзе. Трэба працаваць з гэтай сістэмай, не ленавацца. Нават у нашых умовах можна нешта зрабіць.

**– Вы сур'ёзна збіраліся стаць дэпутатам ці гэтая кампанія была больш жартам?**

– Канешне, гэта была жартоўная кампанія. Я да гэтага часу не ведаю, колькі адсоткаў атрымаў.

## «Дэкан сказаў, што я клоун, ганьба для факультэта»

**– Як паставіліся да вашага намеру бацькі?**

– Пасмяяліся.

**– Ці неяк адрэагавалі на кандыдацтва ў дэпутаты ва ўніверсітэце?**

– Так. Была размова з дэканам. Ён называў мяне клоунам, казаў, што я – ганьба факультэту. Такога ж меркавання прытрымліваліся некаторыя студэнты. Але большасць іх і некаторыя выкладчыкі з гумарам ставіліся да ініцыятывы, разумелі жарты і не лічылі гэта ганьбай.

**– Вашае адлічэнне з універа было чаканым?**

– Шчыра кажучы, я не верыў, што мяне адлічаць, бо я дастаткова добра вучыўся, паступіў на кафедру тэарэтычнай фізікі. На зімовай сесіі ўзнік канфлікт з выкладчыкам радыёэлектронікі.

Мяне адлічылі з універсітэту за прагулы ўвесну 2015 года. Я сапраўды прапускаў шмат, збольшага – няпрофільныя прадметы. Але навошта мне ўставаць зранку ды ехаць праседжваць парткі, калі я магу першы раз пабачыць выкладчыка на іспыце і здаць на адзнаку, якая будзе вышэй, чым у тых, хто адседзеў усе лекцыі? З майго пункту гледжання, наадварот, трэба выключаць тых, хто ходзіць на лекцыі, а потым на іспыце нічога не ведае.

Таму я б не звязваў маё выключэнне толькі з палітыкай. Гэта сістэма думак і сістэма каштоўнасцей. Там галоўнае – гэта не твае веды, фармальнае наведванне заняткаў. Гэта праблема нашай сістэмы адукацыі.

## «Мне патрэбна палітыка, каб адчуваць сябе гаспадаром сваёй зямлі»

**– І чым займаецеся пасля адлічэння з універа?**

**ПРАЦЯГ на старонцы 16 ▸**



# Як і чаму 20-гадовыя актыўна ўдзельнічаюць у палітычным жыцці?

**ПРАЦЯГ. Пачатак на старонцы 14**

– Шукаю працу ў грамадска-палітычным сектары ці магчымасць працягнуць вучобу, падарожнічаю. За выбарамі вось назіраў. Жыву ў кайф.

**– Мала каго з моладзі сёння цікавіць палітыка. Для чаго яна вам?**

– Палітыка – інструмент прасоўвання сваіх інтарэсаў. Я хачу жыць у Беларусі і адчуваць сябе тут камфортна, гаспадаром сваёй зямлі. Большая частка моладзі звыклася з безадказнасцю, з тым, што за іх рашэнні прымае нехта іншы. Але адказнасць – гэта неад'емная частка свабоднага грамадства, такога, у якім я хачу жыць.

**– Ці вы лічыце, што сваёй актыўнай дзейнасцю можаце нешта змяніць у гэтай краіне?**

– Змяняць трэба ўсё: ад эканомікі, сістэмаў адукацыі і аховы здароўя, сацыяльнай ды ідэалагічнай палітык. Але пачынаць трэба са зменаў у галовах людзей, бо дзяржава – гэта адлюстраванне народу.

**– Кандыдацтва ў дэпутаты, досвед назіральніка, чым плануеце займацца далей?**

– У наступным годзе – выбары дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў. Сур'ёзную парламенцкую кампанію пакуль не пацягну, але хачу папрацаваць у выбарчым штабе кандыдата ад дэмакратычных сілаў. Алеся Лагвінца, напрыклад. Таксама мы з камандай маем планы пашырыць незалежнае назіранне, прыцягнуць новых людзей. «Выбары» – гэта апагей існуючай сістэмы, тут ёсць усё: беззаконне, паказуха, страх, падман і самападман. Дастаткова пабачыць гэтае шоў адзін раз, каб зразумець: гэта не мая сістэма, не мая дзяржава.

**svaboda.org**

**Твіты назіральнікаў з Берасця**









# Як паводзіць сябе на мяжы?

**Як перасекчы мяжу, не выходзячы з зоны камфорту – адказы на самыя хвалюючыя пытанні – дзе, як, чаму і калі ўжо.**



*Мяжа паміж Беларуссю і Польшчай*

**• Што патрэбна?**

- Перадусім па ўсіх напрамках і на ўсіх відах транспарту неабходна мець з сабой пашпарт. Нават калі твая мэта – бескардонная Расія. Ёсць выпадкі кропкавага кантролю; без пашпарта цябе маюць права ссадзіць на 48 гадзін для высвятлення асобы і аформіць штраф. Таксама можаш карыстацца службовым ці дыпламатычным пашпартам альбо пасведчаннем марака, калі ты такое маеш. Калі пра*баліся дакументы за мяжой, звяртайся ў беларускае дыпконсульства па месцы страты: табе павінны выдаць пасведчанне на вяртанне.

- Накіроўваешся ў Еўрапейскі саюз ці ў іншыя краіны свету? У большасці выпадкаў табе спатрэбіцца віза. З візай у ЕС патрэбна мець медыцынскую страхоўку. Дзесьці пытаюцца, дзесьці не, не будзе – давядзецца купіць новую. Ва Украіну медстрахоўка не патрэбная, асцерагайся акулаў мясцовага бізнэсу.

- Пацверджанне плацежаздольнасці (выпіска з карт-рахунку) патрэбнае на этапе атрымання візы. На граніцы звычайна ў кішэнь не лезуць. Гаворыш: «Вось столькі наяўных, астатняе – на картцы». З разліку € 40 на дзень знаходжання. На крайні выпадак май выпіску з карт-рахунку з сабой.

- Калі едзеш на аўтамабілі, памятай, што мусіш мець пасведчанне кіроўцы, рэгістрацыю аўто, тэхагляд, страхоўку і «зялёную» карту. Калі вандруеш не на сваім аўто, дык яшчэ спатрэбіцца даверанасць: ва Украіну – натарыяльна завераная, у Польшчу, кажуць, можна ад рукі напісаць.

- З 2011 года на адным і тым жа аўто ў краіны ЕС можна ламіцца не часцей, чым раз на восем дзён. Інакш трэба дэкларавайць паліва праз чырвоны канал. Выключэнне робіцца для таго, хто ездзіць па вучобе, працы, лячэнні, імчыць у аэрапорт альбо едзе наведаць сваякоў ці памерлых.

**• На мяжы**

- Калі падаеш пашпарт у вакенца, правярай, каб ён быў без вокладкі і грошай унутры. За апошняе могуць уклapаць 50 базавых.

- Калі на мяжы пытаюцца пра мэту візіту, кажы тое, што пісаў у анкеце. Бо могуць развярнуць, як распавядзеш пра мары пабачыць акіян у Партугаліі, а ў графе пражывання пазначыў віленскі Algirdo Hotel.

- На мяжы абавязкова адключы або схавай відэарэгістратар: на тэрыторыі пагранічных комплексаў фота- і відэаздымкі забаронены. Таксама нельга весці тэлефонныя перамовы.

**ПРАЦЯГ на старонцы 18 ▸**

# Як паводзіць сябе на мяжы?

▶ ПРАЦЯГ. Пачатак на старонцы 17

- З дзецьмі да трох гадоў можаш не саромеючыся шчаміцца наперад чаргі – маеш права. Непаўналетнія могуць ездзіць з абодвума або адным з бацькоў без дадатковых дакументаў (мусіць быць толькі прапісаны статус бацькоўства). Калі падлетак папёрся адзін, з кампаніяй ці са сваякамі, патрэбна пісьмовая завераная згода абодвух бацькоў.

**• Звярні ўвагу!**

- Калі едзеш аўтаспынам, памятай: з кастрычніка 2014 года Беларусь адмяніла пешаходны рух праз мяжу з Польшчай, Літвой і Латвіяй. Цяпер толькі варыянт – падсесці да каго-небудзь перад шлагбаумам. З еўрапейскага боку пешаходны рух не забаронены. На ровары можна перасякаць амаль паўсюль, а пешаходна-роварны дзённы пераход ёсць у Белавежскай пушчы.

- Ва Украіну нельга везці марганцоўку і ацэтон, то-бок і вадкасць для зняцця лаку. Гэтыя рэчывы лічацца прэкурсорамі для вырабу наркотыкаў.

- Калі ты затарыўся ў замежных молах таварамі на суму больш € 1500 ці вагой больш 50 кілаграмаў – фармальна трэба дэклараваць. Алкаголь без дэкларацыі можна ўвозіць у Беларусь да 3 літраў, цыгарэты – 200 штук ці 250 грамаў тытуню.

- Малочныя альбо мясныя прадукты праз мяжу з ЕС правозіць забаронена, праз украінскую мяжу – да 5 кг гатовай прадукцыі ў завадской запакоўцы.



*Мяжа паміж дзяржавамі Паўночнай і Паўднёвай Амерыкі*

- І апошняе: будзь ветлівым з памежнікамі, за абразу службовай асобы пры выкананні службовых паўнамоцтваў – ад 20 да 50 базавых.

**P.S.**

http://gpk.gov.by/ – інфармацыйны партал Дзяржаўнага пагранічнага камітэта

+375-17-265-90-08 – кругласутачны тэлефон даверу

+375-17-216-26-12 – кругласутачны тэлефон «гарачай лініі» па пытаннях перасячэння Дзяржаўнай граніцы

Пульс мяжы Беларусь – дадатак для Android пра чэргі на мяжы.

**34mag.net**




*Мяжа паміж Нідэрладыяй і Бельгіяй*

# 6 онлайн-ресурсов для дистанционного обучения

**Сентябрь – самое лучшее время, чтобы взяться за ум и собраться с мыслями. Кроме самого обычного очного или заочного обучения можно обратиться к дистанционному - начать можно с одной из главных платформ онлайн-образования на русском языке.**




**• Class Central**

Здесь собрано огромное количество курсов, как по точным, так и гуманитарным наукам: компьютер (305 курсов), здоровье и медицина (199 курсов), математика и статистика (105 курсов), бизнес и менеджмент (268 курсов), гуманитарные науки (361 курс), инженерия (104 курса), искусство и дизайн (89 курсов) и многое другое. Есть большое количество курсов и на русском языке.

**• Coursera**

Это, пожалуй, самый крупный онлайн-университет на сегодняшний день. Здесь вам предложат порядка 700 бесплатных курсов, собранных со всех университетов мира, начиная от искусства, химии, экономики, энергетики и заканчивая гуманитарными науками, компьютерными технологиями, физикой и многим другим. Тут есть 17 курсов на русском языке.

Обучение может длиться от недели до двух месяцев, включая просмотр обучающих видео, выполнение тестов, чтение литературы по теме, выполнение домашнего задания и итоговый экзамен, после которого вы получаете онлайн-сертификат. Есть тут и платные курсы – 49 $.

**• Uniweb**

Здесь есть платные курсы ведущих университетов России: МГИМО, МГУ, Институт бизнеса и делового администрирования, Олимпийский университет и пр. Всего на сайте представлено 35 курсов и 10 программ (http://uniweb.ru/courses/2), стоимость которых варьируется от 3 000 до 20 000 российских рублей. Впрочем, есть тут и бесплатные программы.

**• «Универсариум»**

На сегодняшний день в «Универсариуме» вы можете записаться на бесплатные курсы по филологии, культуроведению, математике, химии, микроэкономике, электронике, биологии, антикризисному управлению, кибернетике, истории, философии, литературе. А можете изучить космос, кулинарию, мультипликацию и пр. Обучение в «Универсариуме» делится на модули, а модули включают в себя видеолекцию, самостоятельную работу, домашнее задание и тест.

**• Lendwings**

Онлайн-курсы лучших преподавателей мира, переведенные на русский. К сожалению, не все тут бесплатно: обычно цена составляет от 50 до 100 долларов. Но если хорошо поискать, то можно пройти обучение, не потратив ни копейки.

**• Microsoft Virtual Academy**

Платформа предлагает обучение от ведущих экспертов Microsoft, участие в программах MVA – бесплатное. Сейчас можно пройти обучение по курсам: разработка приложений, виртуализация, управление настольными ПК и устройствами, серверная инфраструктура, облако, C#/XAML, HTML5. А также есть курсы по отдельным продуктам Microsoft: Windows, Windows Server, System Center, Microsoft Azure, Visual Studio, Windows Phone, SQL Server.

**citydog.by**

# Як бяспечна глядзець порна ў Беларусі?

**Згодна са статыстыкай, Беларусь займае 125-е месца ў свеце па індэксе дэмакратыі і 61-е – па колькасці наведнікаў PornHub.**

Папулярнасць порна сярод беларусаў трывае настолькі, што ў Urban Dictionary існуюць нават устойлівыя слэнгавыя выразы “Belarusian breakfast” і “Belarus steam hammer”. Нягледзячы на гэта, атрымаць жыццёвую асалоду могуць перашкодзіць сутыкненні з законам. Тым больш, што апошнім часам беларускія міліцыянты зацята ўзяліся за пошук парнографаў – але пакуль у асноўным знаходзяць выпадковых грамадзян, якія няўдала паставілі лайк ці расшэрылі няправільны відос сабе на сцяну ў «Вконтакте». Разглядаем ніжэй найбольш паказальныя кейсы.

**• Што можна?**

- Можаш спакойна глядзець порна афлайн ці анлайн, таксама захоўваць лепшае на камп’ютары для ўласных інтарэсаў – усё гэта цалкам законна.

- Смела здымай з каханай або каханым хатнія блокбастары, адзіны запавет – не папаўняй скарбонку сусветнага кінематографа сваімі шэдэўрамі публічна.

**• Крымінал**

- Адказнасць наступае, калі ты жадаеш падзяліцца гарачай сцэнай з сябрамі ці з усім светам. Прытым крымінальная. За распаўсюд парнаграфіі можна атрымаць ад двух да чатырох гадоў. Напрыклад, як жыхарка Барысава, якая даслала праз Viber хоўм-відэа са сваім палюбоўнікам яго жонцы.

- Распаўсюдам у Беларусі таксама лічыцца твой лайк, шэр або каментарый у сацсетках пад порна. Бо механізмы гэтых медыя звычайна размяшчаюць інфу на тваёй старонцы. Праваахоўнікі пільна сочаць за такой актыўнасцю (вядома, гэты нашмат цікавей, чым займацца карыснымі справамі). Выпадкаў шмат: ад лідскага порнанеафіта да каментара гамяльчанкі «Фу, якая брыдота». Карацей, ніякага «кантакціка», табе што, нармальных сайтаў мала?

- Нават калі ты перадаеш сябру па Bluetooth фотку Сашы

Грэй ці Міі Халіфы, сачы, каб побач не стаяў стукач, які зліе гэтую інфу міліцыі.

- Будзь уважлівым, калі пампуеш порна праз торэнт. Лепей адключыць функцыю раздачы, бо могуць прыкляпаць «распаўсюд». У Беларусі такіх выпадкаў яшчэ не было, а вось у Кемерава прэцэдэнт ёсць.

- Калі ты збіраешся з сябрамі паглядзець сумесна порна, асцерагайся, каб міліцыя не накрыла ваш кінатэатр у гэты момант. Арганізатару прагляду інкрымінуюць «публічнае дэманстраванне» – грамадскія працы, штраф, папраўчыя работы да двух гадоў або арышт да шасці месяцаў.

- Дарэчы, калі твой былы ці былая выкладвае ў публічны доступ твае інтымныя фоткі ці відэа, ты можаш прыцягнуць яго/яе да адказнасці, па-першае, за распаўсюд. Па-другое, за незаконны распаўсюд інфармацыі аб прыватным жыцці і абразу. У некаторых краінах існуе юрыдычны тэрмін «порнапомста», за які ў Брытаніі даюць да двух гадоў, у Ізраілі – пяць, а амерыканец Кевін Боларт атрымаў 18 гадоў за стварэнне сайта revenge porn з масавай абразай жанчын.

- Справы аб прызнанні матэрыялу порна разглядае Рэспубліканская экспертная камісія па прадухіленні прапаганды парнаграфіі, гвалту і жорсткасці. Яна вырашае, порна гэта ці эротыка. Некаторыя фільмы сусветнага пракату забаронены ў Беларусі як порна, таму нельга сумесна глядзець амаль усе карціны Цінта Браса, «З шырока заплюшчанымі вачыма» Кубрыка і нават нявінную амерыканскую камедыю «Зак і Міры здымаюць порна».

**• Статыстыка**

- У 2013 годзе было ўзбуджана 278 крымінальных порнаспраў, у 2014 – ужо 397. За восем месяцаў 2015-га – 404 крымінальныя справы па артыкуле УК РБ 343 «Выраб і распаўсюд парнаграфічных матэрыялаў або прадметаў парнаграфічнага характару». Большасць з іх – «за бытавы распаўсюд». Кантора піша!

**• Як у іншых краінах?**

- Памятай, што ў іншых краінах розная адказнасць за прагляд ці захоўванне порна. У Новым Свеце лепей не мець пры сябе порна пры ўездзе на Кубу, Багамы і ў Гаяну. Ва ўсіх мусульманскіх краінах, акрамя Турцыі, забаронены ўсе сувязі з парнаграфіяй, нават прагляд. Таксама гэта тычыцца афрыканскіх Батсваны, Нігерыі і Сьера-Леонэ. У Азіі могуць быць праблемы ў абедзвюх Карэях, Кітаі, Філіпінах, Шры Ланцы і В'етнаме. У Індыі і Тайландзе можна глядзець порна, але не вырабляць ці распаўсюджваць. У Еўропе ва ўсіх краінах можна спакойна глядзець ці мець порна. Нелегальным застаецца выраб і распаўсюд у Балгарыі, Беларусі, Украіне, Расіі і Ісландыі. У апошняй нават абмяркоўваецца бан на анлайн-парнаграфію.

- У шматлікіх краінах закрыты доступ на папулярныя порнасайты. Таму, калі вельмі карціць і ты ў краіне, дзе прагляд нелегальны, карыстайся ананімайзерам. Лепш за ўсё спампуй браўзер Tor, які схавае твае самыя таемныя віртуальныя авантуры.



• • •

Украінец пабываў па турпуцёўцы ў Гішпаніі, распавядае пра карыду:

«Ну, арэна така ўся гарна, на трыбунах – па-гішпанску чоловікі – вси такі гарни, спокийни, гішпанскія жинкі – гарни, спокийни, выпусцілі быка на арэну – вялікі такі бык, спокийный, тарэадор выйшаў – гарный, спокийный. І тут тарэадор дастаў комуняцькый сцяг! І ўсе як з розуму пасхадзілі!

• • •

У лекараў ніколі не здзяйсняюцца навагоднія жаданні, таму што Дзед Мароз не можа прачытаць іх лісты.

• • •

Расейскае Таварыства сляпых заявіла, што не бачыць альтэрнатывы прэзідэнту Пуціну.

• • •

- Прыходзь да мяне, пераўсталюеш вінду.
- Наташа, ты ж толькі купіла наўтбук, у цябе новая вінда!
- Ты тупы ці што, намёку не разумееш?
- Ты не можаш пераўсталяваць вінду, а тупы, значыць, я?!

• • •

**16 дурных «чаму»**

1. Чаму жанчыны не могуць наносіць туш на вейкі з зачыненым ротам?
2. Чаму ў газетах не сустракаецца загаловак «Прадказальніца выйграла ў латарэю»?
3. Чаму дактары завуць тое, што яны робяць, «практыка»?
4. Чаму, каб скончыць працу ў Windows, трэба націснуць на «Start»?
5. Чаму цытрынавы сок зроблены з канцэнтрату, а сродак для мыцця посуду – з сапраўднай цытрыны?
6. Чаму няма ежы для катоў са смакам мышэй?
7. Чаму, калі выходзіць новы корм для сабак ці котак з «новым палепшаным смакам», невядома, хто яго спрабуе?
8. Чаму Супермэн носіць свае чырвоныя трусы па-над порткамі?
9. Чаму Ной не прыбіў тых двух камароў?
10. Калі да тэфлону нічога не прыліпае, то як тэфлон прыляпляюць да патэльні?
11. Навошта стэрылізуюць іголку шпрыца, калі караюць смерцю праз ін'екцыю?
12. Чаму самалёты не робяць з таго матэрыялу, з якога чорная скрыня?
13. Чаму, робячы пакупкі ў краме за ўласныя грошы, мы кажам прадаўцу «дзякуй»?
14. Чаму пры нараджэнні ў чалавека праразаюцца зубы, калі ўсё адно ён памірае са штучнай сківіцай?



15. Навошта думаць над тым, што з'явілася раней: яйка ці курыца, калі і тое, і іншае мы ямо ў гатовым выглядзе?
16. Чаму мужчыны голяць твар, а жанчыны ногі? Гэта намёк?

• • •

– Вы не задумваліся, чаму назвы практычна ўсіх хатніх жывёлаў – казёл, баран, авечка, курыца, карова, гусь, певень – лаянкі, і толькі КОТ – гэта мілая мянушка.
– Яшчэ цікавей тое, што лаянкамі завуць тых, хто прыносіць карысць, а мілай мянушкай – самага някчэмнага.

• • •

Рэакцыя француза на наш боршч:
– А навошта вы варыце салат?

• • •

Прафесара матэматыкі пытаюць:
– Вы пойдзеце галасаваць?
– Не.
– Чаму, прафесар?
– Паводле тэорыі верагоднасці, мой голас ні на што не паўплывае.
– Але прафесар, калі ўсё апынуцца такімі ж «разумнымі»?
– Паводле тэорыі верагоднасці, усё разумнымі не апынуцца.

• • •

Першае спатканне. Ён ёй:
– Навошта ты абцасы надзела? Ледзь ідзеш!
– Я падумала, што табе падабаюцца высокія дзяўчыны.
– Не, мне падабаюцца разумныя.
– Для гэтага я апранула акуляры.

• • •

Менавіта ў нас з'явіліся першыя сацыяльныя сеткі. Варта было на плоце напісаць слова «Лена» – адразу з'яўляліся і статуты, і каментары.

• • •

Асноўныя прынцыпы ваеннай прапаганды былі выкладзены брытанскім дыпламатам лордам Пансонбі у кнізе «Хлусня падчас вайны» (1928г). Сутнасць гэтых прынцыпаў зводзіцца да наступнага:

1) Мы не жадаем войны.

Галоўнае – пераканаць людзей, што «дрэнныя хлопцы» ненавідзяць «нас» і ўжо пачалі (ці гатовыя пачаць) першымі.

2) Вайна вядзецца толькі па віне суперніка.

Гэта «іншыя», «яны» пачалі вайну, ці мараць яе пачаць з дня на дзень. «Мы» ж змушаны абараняцца.

3) Лідар варожай краіны – проста д'ябал.

Не абавязкова прымушаць ненавідзець увесь народ, – пісаў Пансонбі. – Трэба персаніфікаваць выяву ворага, паказаць свайму насельніцтву, што кіраўнік «іншых» – гэта псіхічнахворы, які звар'яцеў, прадажны чалавек.

4) Мы змагаемся за праўду, а не за нашы інтарэсы.

Варта замоўчваць, што ў кожнай вайне ў першую чаргу пераследуюцца эканамічныя мэты, падкрэсліваючы толькі гуманітарныя чыннікі.

5) Вораг мэтанакіравана здзяйсняе злачынствы, мы – толькі выпадкова.

Трэба максімальна аператыўна распаўсюджваць звесткі пра жорсткасці, учыненыя супернікам, растлумачваючы, што менавіта яму ўласцівыя падобныя ўчынкі.



6) Вораг выкарыстоўвае забароненую зброю.

7) Нашы страты малыя, страты суперніка велізарныя.

Падчас вайны страты ў жывой сіле і тэхніцы называюць не фактычныя, а кіруючыся сваёй выгадай.

8) Прадстаўнікі культуры, мастацтва і інтэлектуалы падтрымліваюць нашу справу.

9) Наша місія святая.

10) Любы, хто сумняецца ў нашай прапагандзе – здраднік.

## АБ'ЕКТЫЎна

"Дзедзіч" заўсёды дае маладым таленавітым людзям магчымасць прэзентаваць сваю творчасць шырокаму колу чытачоў. Нехта дасылае вершы, нехта - фота. Сёння на апошняй старонцы - наша рубрыка "АБ'ЕКТЫЎна", дзе кожны малады фатограф можа апублікаваць свае самыя ўдалыя фоткі. Чарговым героем нашай рубрыкі стала Таццяна Гендзель. Знаёмцеся:

Привет читателям "Дзедзича"! Меня зовут Таня Гендель.

Лет шесть назад я начала активно путешествовать и тогда же поняла, что путешествия и фото связаны неразрывно. Глупо бывать в красивых местах, знакомиться с интересными людьми и не иметь возможности оставить себе кусочек нового мира на память.

Творческий стиль жизни, несколько лет художественной школы и большой интерес к съемке позволил мне довольно быстро освоить ручные настройки зеркальной камеры, а дальше пошел метод проб и ошибок.

С камерой я не расстаюсь на протяжении трех лет и у меня уже набралась хорошая "фототека" из стран Европы, Азии и Африки. Фотография научила меня внимательнее смотреть на мир и замечать каждое изменение в окружении. Я стала замечать, как меняется свет и тень на протяжении дня, как красиво отражается солнце в росе, какие потрясающие бывают закаты. Фото открывает новый мир и я рада, что могу творить волшебство своими руками!

Больш падрабязна з творчасцю Таццяны можна пазнаёміцца на адмысловых старонках Укантакце:

https://vk.com/the9sky,
https://vk.com/milvaelphoto


# Дзедзіч

**Інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь • №6(93) • Верасень 2015**
dzedzich@dzedzich.org • www.dzedzich.org

**Заснавальнік: ініцыятыўная група моладзі**
**Распаўсюджваецца бясплатна**
Падпісана ў друк 31.09.2015 года у 18-00
Папераафсетная, фармат А5, 1,5 ул.-друк. аркуша,
Гарнітура Myriad
Надрукавана на памнажальнай тэхніцы сябраў рэдакцыі
**Наклад 299 асобнікаў**

**Галоўны рэдактар: Дзмітрый ШЫМАНСКІ**
Рэдкалегія: Ю.МІКАЛАЕВА, А.КАХОВІЧ, П.ДАЙЛІД, У.КРАСЬКО, А.ТРУС
Адказны за выпуск: Вольга ЯРАМЧУК
**Кантактныя тэлефоны:** (029) **660-57-41**, (029) **724-21-16**
Пры выкарыстанні матэрыялаў бюлетэня спасылкі на крыніцу абавязковыя
Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў і друкаваць артыкулы для далейшай палемікі


